# ПАГОНЯ

**Цэна № 1 аукс.**

**ГРАМАДЗКАЯ, ПАЛІТЫЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ**

ВЫХОДЗІЦЬ ЧАСОВА РАЗ У ТЫДЗЕНЬ.

Абвесткі ўселякага разьмеру прыймаюцца коштам за радок маленькага друку 2 залатых на апошняй страніцы незалежна ад зьместу.

**Адрэс рэдакцыі і канторы:** Вуліца Адама Міцкевіча, 13-а. Тэлефон № 23.

Рэдакцыя адчынена што дзень ад 1—3 гадз. Кантора адчынена што дзень ад 9—3 гадз.

**Падпіска каштуе:** на **10** № № ўпярод — **10** зал., „ **5** „ „ — **5** „, Кошт асобнага № — **1** „

**Рукапісы** ня прынятыя да друку назад не вертаюцца; прынятыя аплачаваюцца па пагляду Рэдакцыі.

**№ 13.** | **Коўна, Чацьверг, 4 лістапада 1920 г.** | **Год І-шы.**


Спаўняючы абавязкі Прэзыдэнта Рэспублікі Старшыня Устаноўчага Сойму абвешчае гэты закон, прыняты Устаноўчым Соймам 9 жніўня 1920 году.

## Закон

Аб найме ў местах і мястэчках дамоў, памешканьняў і пакоеў.

§ 1. У местах і мястэчках дазваляецца ўзвысіць арэндную плату за прыватныя кватэры і памешканьні дзяржаўных устаноў ня вышэй 3 разоў ад тых цэн, якія былі да 23 красавіка 1914 г., лічучы расейскі рубель роўным 2 маркам (ост.).

§ 2. Устанавіць арэндную плату даручаецца месцовым самаўрадам. Устаноўленая цана не павінна перавышаць цаны паказанага ў § І максімума.

§ 3. Самаўрад устанаўлівае максімум арэнднай платы адзін на ўсё места чы мястэчка, чы асобна на кожную частку места, раёну, вуліцы, гледзючы па жыцьцёвым варункам места. Пры зьмене тых варункаў, самаўрад можа перамяніць раней устаноўлены максімум.

§ 4. Для дамоў, за якія арэндную плату, быўшую да 23 красавіка 1914 г., немагчыма ўстанавіць,—цана ўстанаўліваецца ў параўнаньні да цаны тэй-жа вуліцы, чы таго-ж раёну.

§ 5. Арэндная плата за пакоі, начлежкі і вуглы устанаўліваецца па іх вялічыне і прапарцыянальна цане памешканьня, чы дому. За мэбель і паслугі плаціцца ня больш 50%.

Увага: Плату за номэры ў готэлях устанаўлівае местовы самаўрад. Цэны, устаноўленыя местовым самаўрадам, павінны быць вывешаны ў готэлю.

§ 6. Спрэчкі аб арэнднай цане ў кожным асобным выпадку па §§ 4 і 5 рашае кватэрны аддзел.

§ 7. Патрэбны рамонт памешканьня не дае права яе ўласьніку павышаць цану вышэй устаноўленага максімума. Калі ўласьнік адмаўляецца рабіць рамонт, патрэбнасьць якога пацьвердзіцца Кватэрным Аддзелам, рамонт робіць сам арэндар (кватэрант) і выдаткі пакрывае ўтрымываньнем з арэндад кожны месяц ня больш паловы месячнай платы і, замест утрыманых грошай, прэдстаўляе ўласьніку апраўдацельныя дакумэнты выдаткаў.

§ 8. Па аканчаньні арэнднага тэрміну, арэндар мае права ўзновіць арэнду па той самы час і на тых самых варунках, толькі арэндная плата можа быць зьменена, калі зьменяецца яе максімум, як сказана ў § 3.

Увага: Арэндар ня можа карыстацца §§ гэтага закону толькі тагды, калі памешканьне патрэбна самому ўласьніку. Гэту патрэбнасьць рашае кватэрны аддзел.

§ 9. Ўласьнік мае права высяліць кватэранта па аканчаньні арэнднага сроку, чы настайваць на ўкарочэньні гэтага сроку толькі ў гэтых выпадках: а) калі арэндар не выпаўняе арэндных варункаў, б) калі арэндар ня плаціць больш месяцу за кватэру, в) калі арэндар не прытрымліваецца правілаў і абавязковых пастаноў санітарных, пажарных і інш., г) калі арэндар карыстаецца кватэрай ня з тэй мэтай, дзеля якой наймаў.

§ 10. Арэндныя варункі, у якіх устаноўленая цана будзе іншая, чым устаноўлены па гэтаму закону максімум, могуць нарушацца ў тэй частцы, гдзе пастаўлена арэндная плата, не глядзючы на заварце ўмовы да апавешчэньня гэтага закону, чы пасьля апавешчэньня. Ужо заплачаныя грошы звыш арэнднага максімума назад не зварачываюцца.

§ 11. Незанятыя кватэры рэгіструе Кватэрны Аддзел. Уласьнікі дамоў паведамляюць Кватэрны Аддзел аб незанятых кватэрах у трохдзённы тэрмін ад таго дня, калі ўпрэжні (стары) кватэрант высяліўся. Здаўшы ў арэнду кватэру, уласьнік дамоў паведамляе аб гэтым Кватэрны Аддзел не пазьней другога ранна.

Увага: У працягу двухтыднёвага тэрміну, уласьнікі дамоў павінны паведаміць аб незанятых кватэрах местовы самаўрад.

§ 12. Уласьнікі дамоў, не выканаўшыя дамаганьняў § 11, караюцца грашовым штрафам, у ліку 50% гадовага максімума арэнднае платы за дом. Кару накладае Кватэрны Аддзел у карысьць Самаўраду. Яна ўзысківаецца такім-жа чынам, як і дзяржаўны налог.

§ 13. Незанятую кватэру арэндатар можа заняць насільна пры дапамозе Кватэрнага Аддзелу.

§ 14. Самаўрады павінны, ў працягу месяцу з дня апублікаваньня гэтага закону, устанавіць у мястэчках і местах максімум арэнднай платы (§§ 2 і 3) і зарганізаваць кватэрныя Аддзелы (§ 15). Да ўстанаўленьня самаўрадамі арэнднага максімума, лічыцца максімум, устаноўлены § 1.

§ 15. Старшынёй Кватэрнага Аддзелу зьяўляецца адзін член Местовай Рады, ёю самой назначаны, а членаў Аддзелу, ня менш 2, выбірае Рада Самаўраду так, каб уласьнікі дамоў і арэндары мелі ў гэтым аддзеле сваіх прэдстаўнікоў у аднолькавай лічбе (ня лічучы старшыні).

§ 16. Просьбы, чы паведамленьні, падаваемыя Кватэрнаму Аддзелу пісьменна, чы славесна, выключаючы рэгістрацыю не занятых кватэр (§ 11), і спраўкі аб іх, аплачываюцца гэрбавым зборам у 2 маркі. Такім жа гэрбавым зборам аплачываюцца і адказы кватэрнага аддзелу, даваемыя на просьбы і паведамленьні.

§ 17. За кожную сваю працу Кватэрны Аддзел бярэ ад прасіцеляў вынаграджэньня па спэцыяльна устаноўленай месцовым самаўрадам таксе. Гэта вынаграджэньне падае на прайграўшага справу (спрэчку) у кватэрным аддзеле і йдзе ў карысьць самаўраду.

§ 18. З дня апавешчэньня гэтага закону, „Закон аб найме кватэр і пакояў у мястечках і местах і аб нарміроўцы арэнднай платы“ ад 10 верасьня 1919 г. і аб'ясьненьні да яго ад 2-га лістапада (№ 12 і № 15), трацяць моц.

А. Стульгінскі,
Спаўняючы абавязкі Прэзыдэнта Рэспублікі,
Старшыня Устаноўчага Сойму.

Д-р К. Грынюс,
Старшыня Міністраў.

◆◆◆◆◆◆

*Коўна*, 4 *лістапада*.

Для Менска-беларускага насталі ўзноў дні неспакою і новых цярпеньняў. Пераходзячы з рук у рукі, ад палякоў да бальшавікоў і наадварот, сягоньня Менск робіцца арэнаю зусім новых падзеяў. Утварыўшы мір з бальшавікамі, Польшча ўсё-ж-ткі і далей вядзе вайну з імі, вельмі добра разумеючы, што гэта мір, вісячы ў паветры, а несупраўдны. Але-ж як можна вясьці вайну, толькі што падпісаўшы мір? Шак трэба-ж выпаўніць хоць якія—небудзь правілы міжнарадовых пастаноў. І Польшча выпаўняе іх. Яна будзе вясьці вайну з Савецкай Расеяй, але не ўласнымі сіламі, а самаахвотніцкімі фармаваньнямі з тых расейскіх частак, якія ўдалося сфармаваць у Польшчы гэнэралу Балаховічу і Барысу Савінкаву. Такім чынам, фактычна вайна будзе ісьці надалей, „расейскія“ атрады будуць пасовывацца ўперад, пакідаючы за сабою, пад відам тылу, многалічную польскую армію.

І Балаховіч і Савінкаў адкрыта заяўляюць, што іх мэтаю ёсьць паход на Маскву і поўнае зьніштажэньне бальшавікоў. Інтэрэсы-жа тых месцаў, дзе яны фармуюцца, іх нікольні ня цікаваць. Здавалося-б, што пры такой настанове справы і Балаховічу і Савінкаву належало-бы дамагацца ад польскага ураду, каб на Беларускую тэрыторыю, каторую яны занялі дзеля фармаваньня, зьвярнуўся з эміграцыі Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, які і упраўляў-бы страной. Але гэтага нямаш. Як быццам пад сваім штандарам, а на чыне па указцы палякоў, той-жа Балаховіч, каторы 14. XI. 1919 г. пісаў ніжэйдрукуемае пісьмо, ужо зарганізаваў у Менску асобны урад, нічога супольнага ня маючы з Урадам Б. Н. Р., каторы, разумеецца, тут-жа названы беларускім. Словам, за права прытуліцца на чужой тэрыторыі са сваімі вайскамі, Балаховіч і Савінкаў хочуць аддаць гэту тэрыторыю ў поўную польскую уладу. Цяпер ясна для кожнага, як будзе адносіцца насяленьне Меншчыны да сваіх новых „гасьцей“. Палякі ўмела вядуць палітыку абурэньня маладых гасударстваў і самаакрэсьліўшыхся нацыяў проці Расеі, лічучы, што гэнае абурэньне ў будучыне прымусіць іх пайсьці ў аб'яцьця Польшчы, а не Расеі, Гэрманіі ці Антанты.

Гэты расчот становіцца добра зразумелым, калі расейскія Балаховічы і Савінкавы пазваляюць, прыкрываючыся іх імем, вясьці такую польскую палітыку, каторая зусім чужда Беларусі.

### Пісьмо гэнэрала Балаховіча:

(Журнал „На Чужыне“, Сакавік 1920 г. № 1).

„Атаман Добровольческаго Народнаго Отряда. 14 ноября 1919 года. № 734. Дѣйств. Армія. Старшыне Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі — праз Шэфа Вайскова-Дыплёматычнай Місіі ў Латвіі і Эстіі Палкоўніка Езавітава.

З'яўляючыся грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі, лічу патрэбным, каб мае войска было скарыстана для забароны цэльнасьці і недзялімасьці маей Бацькаўшчыны, а таму прапаную майму Ураду залічыць мяне і мой атрад на Беларускую службу. Гэнэрал-Маёр Булак-Балаховіч“.

## Пратэст Міністра Беларускіх Спраў.

Агрэсыўная авантурыстычная палітыка некаторыхъ польскіх кругоў, спатыкаючая, на жаль, жывую дапамогу Польскага Ураду, скірованная да захвату карэнных беларускіх земляў Літоўскай Рэспублікі, змушае мяне,

як прэдстаўніка майго народу ў складзе Літоўскага Ураду, голасна заявіць гарачы пратэст.

З нетраў даўніх вякоў вырасла на нашай зямлі дружба і еднасьць двух братскіх народаў—Літоўцаў і Беларусаў і стварыла пад скіпэтрам Гэдыміна, Кейстута і Вітаўта з'еднаную сільную дэмократычную дзяржаву.

Свабодны уклад наш, міралюбівы характар сялянскага працоўнага народу і прыродныя багацьці нашага краю заўсёды выклікалі зайздрастныя погляды „ганаровай" і неспакойнай суседкі Польшчы.

Любоўныя інтрыгі, салодкая хвальба, абманы, подкупы і насільле,—усяму яны далі ход, каб заблутаць даверчывых і дабрадушных грамадзян Літоўска—Беларускага княжства, каб навязаць нам няшчасную Люблінскую Унію, праз каторую Польшча абярнула ў цяжкае нявольніцтва нашых земляробаў і на іх крыві, на іх няшчасных касьцёх ўзгадавала на выгляд прыгожую вавілонскую роскаш сваей Рэчы Паспалітай, пад ціжарам брудаў каторай сама, у канцы, загінула, цягнучы ў пастыдным, але вартым гэтага, сваім упадку і ўсе народы, з працы каторых яна карыстала.

Пасьля векавога цяжкага сну нашых народаў прышоў страшны суд Божы.

У шасьцігадовым грамыханьні гарматных залпаў, сярод мора крыві, сьлёзаў, жалеза, вагня, мы чуем згукі труб анялаў, апавешчаючыя адным народам сьмерць, нябыцьцё, а другіх клічучыя да новага жыцьця.

Літоўскі і Беларускі народы—гэта тыя, каторымъ історыя кажа жыць ня толькі дзеля сябе, але і дзеля дабрабыту і шчасьця суседзяў.

Літва і Беларусь заўсёды жылі ў поўнай згодзе і дружбе.

Параскіданыя сярод Літоўскага насяленьня беларусы жылі тымі-ж надзеямі, як і іх браты літоўцы, і калі пранесся кліч, каб тварыць незалежную Літоўскую Рэспубліку, яна стварылася пры супольным і сугалосным усілку абодвых народаў. У Літоўскай Рэспубліцэ ўсе матэрьяльныя і моральныя правы беларусаў умацованы ня толькі канстытуцыйнымі гарантыямі, але і шчырымі жаданьнямі Літоўскага Ураду і народу мець і надаль першую многавекавую дружбу. Эканамічныя, географічныя і культурныя жаданьні беларускага народу заўсёды былі неразрыўна зьвязаны з такімі-ж жаданьнямі Літоўскага народу і гэтае арганічнае злучэньне наша болей умацавалося пад уплывам агульнага гістарычнага ворага, каторы дабіваецца поўнага паднявольніцтва абодвых народаў. Дэмократычна настроены беларускі народ ніколі ня згодзіцца з псіхалёгіей польскага народу, каторы раздзеляе ўсіх людзей на белую і чорную косьць і ўсякае падчыненьне польскаму ігу—гэта шэрэга нявыказываемых мук для цэлага народу. Уселякім запэўненьням Польскага Ураду, кім бы і цераз каго яны ні гаварыліся, беларускі народ перастаў верыць. На сваіх плечах ён пераканаўся, што панская рука, працягнутая з падачкай, праз мінуту падымаецца з кнутом ката. Беларускі народ ня хоча так сама трапіць пад ўласьць бальшавікоў, гэтак-жа паніжаючых яго правы і культуру, як і палякі. Толькі цесная дружба, толькі супольнае жыцьцё з Літоўскім народам дасьць магчымасьць беларускаму інтэлегенту і селяніну ўздыхнуць свабодна. Цэлы рад паўстаньняў у тылу палякоў, паказаў, што Беларускі народ гатоў сваей кроўю ўзмацаваць сваю дружбу з літоўскім народам і права на свободнае істнаваньне.

Дзеля таго, я, як прэдстаўнік беларускага народу ў Літоўскім Урадзе і як выказчык яго надзей і дамаганьняў, зьвяртаюся да ўсяго культурнага сьвету, да ўсіх Урадаў усіх демакратычных старон, да ўсіх народных прэдстаўнікоў і да ўсяго чэлавечаства, катарае можа зразумець страшнае становішча народу, каторы кідаюць у нявольніцтва польскія легіанэры і махлярскія дыплёматы—пачуйце і памажэце! Магутным голасам сваім заявіце, што беларускі народ, як і ўсякі другі, у каторага ёсьць свая культура, мае права на жыцьцё і на дружбу з тымі, да каго схіляеецца яго добрае пачуцьцё, і ўсякае насільле над яго жаданьнем і дамаганьнямі—ёсьць чын простага разбойніцтва і варварства.

**Д. Семашко.**

## Як палякі прыгатаўляліся да нападу на Літву.

(З кніжкі Уладыслава Гізберта—Студніцкага, выдан. у 1919 г.).

### Справа Курляндыі.

Справа Курляндыі мае для Польшчы асабліва важнае значэньне з пагляду таго, што ў Курляндыі ёсьць парты-Лібава і Рыга, надта патрэбныя для ўсходніх польскіх зямель з гаспадарчага боку і для Польшчы з пагляду стратэгічнага.

Гданск можа мець вялікае гандлёвае значэньне, але ня можа мець для Польшчы стратэгічнага значэньня, бо камунікацыю з іншымі краямі зусім лёгка ў кожнай хвілі могуць перасячы немцы. З гэтага пагляду географічнае палажэньне Лібавы многа лепшае.

Насяленьне Курляндыі, як латышы, так і немцы, могуць больш жадаць зьвязі з Польшчай, чым з Расеяй. Польшча можа запэўніць ім аўтаномію, чаго ад Расеі спадзевацца ім трудна.

Аўтаномія Курляндыі павінна быць сканструавана па прыкладу аўтаноміі Харватыі, якая аўтаномія залічваецца да катэгорыі асабліва праўна-дзяржаўных.

Курляндыя мае атрымаць поўную аўтаномію ў справах унутраных, пры гэтым толькі састаўляе адну цэльную тэрыторыю з Польшчай, мае з ёю супольныя жалезныя дарогі, супольны ўрад шляхаў, супольныя тамажэнныя налогі, манаполіі, супольную сыстэму пасредных падаткаў, супольную армію і, само сабой разумеецца, супольнае кіраўніцтва замежнымі справамі.

Дзеля супольных спраў сойм прыбалтыцкага краю пасылае дэлегатаў толькі ў Сойм у Варшаве. У радзе Міністраў Польскага Гаспадарства заседае спэцыяльны Міністр для Курляндзкіх спраў.

Уладаючы Дынабургам, Польшча безпасрэдна мяжуецца з Курляндыей і можа ўвайсьці з ёю ў хаўрус.

Хаўрус польска-курляндзкі рашае судзьбу этнаграфічнай Літвы.

Яна будзе змушана ўвайсьці ў хаўрус з Польшчай, пры чым трэба будзе прызнаць за ёю тыя-ж аўтаномныя правы, якія будуць прызнаны за Курляндыей.

Граніца між Польшчай і Літвой мае быць устаноўлена на моцы ясна выказанай волі народу, пры чым ворганы самаўрадаў могуць быць прызнаны за ворганы гэнае волі.

Зусім ня ў нашых інтэрэсах далучэньне часткі Усходніх Прусаў да Літвы, бо гэта ўзмацніла-б Літву нямецкім ці зьнямечана літоўскім элемэнтам, які мог бы быць працівагай польскім цывілізацыйным і палітычным уплывам.

Няма самненьня, што Вільня і амаль уся Віленская губэрня захоча быць прылучанай да Польшчы.

Нет самненьня, што Літвінам найцяжэй адрачыся ад Вільні, але нават па праэкту праф. Каменецкага Вільня ня ўходзіць у абшар Літвы. Страта-ж Вільні для Польшчы была-б ня толькі балючай, але нават яе нічым не магчыма акупіць, бо Вільня-духоўная сталіца ўсяго ўсходу. Застаючыся ў Польскім гаспадарстве, Вільня мацней праймаецца найбарджэй цэннымі элемэнтамі польскай цывілізацыі, якія будуць яе ўзбагачываць.

Паказанае вышэй вырашэньне ня ёсьць утопія, бо апіраецца на самых жывых інтэрэсах польскага народу, на волі польскага насяленьня Вільні, Віленскай і Горадзенскай губ., а нават і далейшых мясцовасьцяў. Патрэбна толькі, каб Польшча здалела выставіць армію, добра зарганізаваную, баевую і дысцыплінаваную. Ад коаліцыі мы толькі вымагаем, каб яна прэдаставіла нам ваенны матэрьял, харчы, каб зрабіла гэта ў форме пазычкі, якую Польшча пакрые.

## З кніжкі Студніцкага аб Скірмунце.

Праф. Каменецкі прапануе стварыць на Усходзе беларускую дзяржаву з уласным Соймам і Урадам. Па яго думцы, падставай паразуменьня павінна быць прызнаньне права Беларусаў на стварэньне незалежнай дзяржаунасьці са сваім Соймамъ і Урадам. Ужо мы гаварылі, што ў жыцьцёвым укладзе беларускага насяленьня няма дзяржаунай сьвядомасьці, яго не цікавяць гэтыя жаданьні, каторыя ёсьць у другіх народаў. Беларусы пайшлі за расейскімі сацыалістамі (эсэрамі і бальшавікамі) да працы ў аграрнай (зямельнай) справе. Яны жадаюць адабраць і падзяліць землі вялікіх уласьнікаў, але зямлі ў іх не бракуе, а толькі ў іх брак сельскагаспадарчай культуры, вось у чым глаўная балячка. Яны бачаць усё шчасьце толькі ў адабраньні зямлі ад Вайніловічаў, Скірмунтаў і другіх. Пп. Скірмунты, Вайніловічы і др., прабавалі стрымаць гэныя жаданьні народу, накідаючы яму жаданьні ідэйнай вартасьці: развіцьця нацыанальнай сьвядомасьці, апёртай на дзяржаўнай незалежнасьці, дзеля чаго самі змушаны былі прыкінуцца беларусамі, аднак гэтая штука давясьці селяніну, што вартасьць адраджэньня Беларусі ёсьць большай, чым вартасьць маёнткавай зямлі, не знайшла ўвагі селяніна і не патрапіла дайсьці сваёй мэты.

## Новы член Камітэту Нацыянальнай Абароны.

У склад Камітэту Нацыянальнай Абароны ад Міністэрства Бел. Спраў дэлегаваны беларускі дзеяч прысяжны адвакат В. Н. Боеў, перанёсшы ў сваім часе шмат уціску і прасьледаваньня ад палякоў, пры чым у 1919 г. быў інтэрнаваны ў лагэры Домбе пад Кракавам.

В. Н. Боеў—быўшы Старшыня Горадзенскай Губэрнскай Беларускай Управы і Старшыня з'езду выбарных судзьдзяў Горадзеншчыны.

## Заграрнічная хроніка.

Лёнданскія газэты усіх напрамкаў вызначаюць, што падзеі ў Літве ёсьць фактам першай палітычнай важнасьці, і што Англія нямінуча павінна сказаць сваё аўтарытэтнае слова, калі хоча, каб яе не абышлі ў пытаньнях польскай палітыкі.

* * *

За час вайны кожны з Урадаў ваюючых Дзяржаваў выпускаў так называемыя „цвѣтныя" (калеровыя) кнігі з дыплёматычнымі дакумэнтамі. У будучым месяцы ў Жэневі адбудзецца зьезд спэцыялістаў па міжнародаваму праву, каторыя разгледзяць усе гэтыя дакумэнты і па іх зложаць даклад аб тым, якая з дзяржаў больш усяго награшыла проці асноваў міжнароднага права.

## Палітычная хроніка.

Заява п. Буржуа з прычыны магчымасьці энэргічнага ўмешацельства Францыі ў польска-літоўскі віленскі канфлікт зрабіла моцнае ўражэньне ў Парыжскіх полонофільскіх колах.

* * *

Эўропэйскі друк, што нават воража адносіўся да Врангеля—цяперака трывожна сьлядзіць за ваеннымі дыверсыямі бальшавікоў, скіраваўшых усе сваі сілы пасьля Рыжскага міру на Врангелеўскі фронт.

* * *

Фінляндзкі прэмьер Голсті, пабываўшы нядаўна ў Латвіі, у сваей прамове даводзіў патрэбу хутчэйшага стварэньня цеснага эканамічнага і ваеннага хаўрусу Фінляндзіі, Літвы, Латвіі і Эстоніі. Яго праэкту прыдаюць вельмі вялікую вагу ў Лёнданскіх дыплёматычных сфэрах.

## Беларуская дэлегацыя.

У апошнія дні прыбыла ў Коўно дэлегацыя Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі.

У склад дэлегацыі ўваходзяць: Старшыня Рады Народных Міністраў В. Ластоўскі, Міністэр справедлівасьці А. Цвікевіч, поўнамочныя члены—інжэнэр А. Головінскі і Язеп Варонка. Сэкрэтаром дэлегацыі з'яўляецца інж. А. Оўсяннік.

Выдавецтва і рэдакцыя: Стол Друку Міністэрства Беларускіх Спраў. Коўна, вуліца Адама Міцкевіча, 13 я.
ДРУКАРНЯ А. БАКА і Х. МАНКЕС, КОЎНА.